# ПАГОНЯ

Чацвер
2 верасня 1999 г.
№ 53 (430)
Кошт 50.000 руб.


## Рыцарскі турнір у Гродне

**Як стала вядома ПАГОНІ, Гарадзенскі гарвыканкам даў дазвол на правядзенне гарадской радай Народнага Фронту свята Беларускай Вайсковай Славы, якое традыцыйна адзначаецца 8 верасня - у дзень гадавіны Аршанскай бітвы, калі 30-тысячнае войска нашых продкаў ушчэнт разграміла 80-тысячную армію агрэсараў з Усходу - войска Маскоўскага княства.**

Гэтае свята ў Гродне традыцыйна адзначаюць каля муроў старажытнай Каложы. Гэтым разам плануецца, што 8 верасня з 17 да 20 гадзінаў каля памятнага знаку «Пагоня на Грунвальд» адбудуцца паказальныя рыцарскія спаборніцтвы ў гонар нашых славутых продкаў з удзелам рыцарскіх клубаў Менска і Полацка, канцэрт беларускіх бардаў: Віктара Шалкевіча, Зміцера Бартосіка, Андрэя Мельнікава ды іншых, а таксама канцэрт самадзейнай аўтарскай песні.

## «Стаяць» рынкі

**З 1 верасня ў Гродне не працуюць самыя буйныя рэчавыя рынкі - «Паўднёвы» і «Скідальскі». Прычына - прадпрымальнікі дружна пайшлі ў месячны адпачынак у знак пратэсту супраць увядзення ў дзеянне Дэкрэта Лукашэнкі N14.**

Нагадаем, што гэты Дэкрэт дазваляе па фармальных прыкметах канфіскоўваць тавар з любой нагоды, ставіць прадпрымальнікаў у заўчасна невыгаднае становішча. Таму нават угаворы «не ісці ў адпачынак» начальніка гарадской падатковай інспекцыі Пятра Валадзько, якія былі агучаны на рынку па радыё, эфекту не далі.

- Улады заяўляюць, што рабаваць не будуць, хаця Дэкрэт прэзідэнта абавязвае іх рабаваць, - гаворыць адзін з гандляроў, які «пайшоў у адпачынак». - Я асабіста гэтаму не веру, няхай спачатку Дэкрэт адменяць!

Як стала вядома ПАГОНІ, акцыю гарадзенскіх прадпрымальнікаў падтрымалі таксама ў Лідзе і Ваўкавыску.

## «Альформа» перамагла?

**31 жніўня, не пачаўшыся, адкладзена на няпэўны тэрмін галадоўка, якую ў 23 гадзіны пасля змены спрабавалі наладзіць каля прахадной завода аўтамагнітол сябры Свабоднага прафсаюзу, якія працуюць на СП «Альформа».**

Гэтаму рашэнню жанчынаў, якія ўжо адчаяліся атрымаць свой заробак за ліпень (гл. ПАГОНЮ N52 - заўвага аўт.), папярэднічала доўгая размова кіраўніка першаснай арганізацыі Свабодных прафсаюзаў Ірэны Байрашэўскай з намеснікам старшыні гарвыканкама Валянцінай Лаўцэль і кіраўніком адміністрацыі Ленінскага раёна Барысам Казялковым. Пры гэтым, па патрабаванню спадарыні Лаўцэль ад перамоваў быў «адлучаны» сябра Рэспубліканскага Савета прафсаюзаў Валерый Леванеўскі.

Тым не менш, як стала вядома ПАГОНІ, вынікі перамоваў удалыя: улады паабяцалі тэрмінова «закрыць» запазычанасць па зарплаце і тое, што падобнае больш не паўторыцца. Акрамя таго, «вертыкальшчыца» паабяцала, што на «Альформе» будзе заключаны калектыўны дагавор, а работнікі прадпрыемства атрымаюць магчымасць азнаёміцца з рэгістрацыйнымі дакументамі сумеснага прадпрыемства, на якім яны працуюць.

**Ул. інф.**




**3 і 4 верасня** - пераменная воблачнасць, без ападкаў. Вецер усходні, паўночна-ўсходні, 6-11 м/с. Тэмпература паветра ўначы +5...+1, удзень +19...+24.

# Ізноў у школу!

**Пачатак навучальнага года быў і застаецца амаль самым трапяткім святам для настаўнікаў, вучняў і бацькоў. Учора амаль 200 тысяч дзяцей Гарадзеншчыны селі за парты. 29 тысяч педагогаў вобласці пасля двухмесячнага адпачынку, у асноўным на лецішчах, з энтузіязмам прыняліся за «лепку юных душ».**

Першага верасня ў школах горада прайшлі ўрачыстыя лінейкі, прысвечаныя Дню ведаў. У школе-гімназіі N30, самай «прадвинутой» школе горада, лінейка для галоўных герояў навучальнага года пачалася ў 9 гадзінаў раніцы.

«Первачкі» і выпускнікі, якіх было на пяць класаў, выстраіліся карэ ў школьным двары. Старшакласніцы - у міні, старшакласнікі - у гарнітурах, модных пантофлях з квадратнымі насамі. Дзяўчаткі-шасцігодкі - у яркіх новенькіх сукеначках, хлопчыкі - у «дарослых» касцюмчыках з камізэлькамі. І шмат усмешак, кветак, бантоў, матчыных расчуленых слёзаў. Што ні кажы - сур'ёзны крок, пачаць ці скончыць школу. Бацькі з імпэтам здымаюць партатыўнымі відэакамерамі хроніку.

На ўрачыстасці ў элітнай школе прысутнічалі прадстаўнікі абласной і гарадской адміністрацыі: начальніца Кастрычніцкага райана Святлана Цыганкова, начальнік аблана Гаўрон ды іншыя. Губернатар Аляксандр Дубко пасля віншаванняў з пачаткам новага навучальнага года паведаміў пра прыемны сюрпрыз: «адной з лепшых школаў у рэспубліцы -школе-гімназіі N30 - выдаткавана 250 мільёнаў рублёў на набыццё музычнага абсталявання».

Пасля афіцыйнай часткі ў жартаўлівым прадстаўленні да




дзяцей выйшлі Бураціна, Кот Базіліо і Ліса Аліса. Бураціна пытаўся ў шкаляроў: «Ці ісці мне ў школу?», спадзяючыся на дружнае «Та-а-ак!». Аднак меркаванні дзетак раздзяліліся. «Першачкі» з захапленнем клікалі казачнага героя ў школу, тады як выпускнікі, умудроныя вопытам, хорам адгаворвалі яго ад гэтага неразважлівага крока.

Нязменны ганаровы круг першакласніцы на плячах 11-класніка абвесціў праз школьны званок, што пачынаецца першы ўрок новага навучальнага года - Урок ведаў.

Настаўнікі зноў сабраліся цягнуць нялёгкі воз ведаў. Упартае самаахвяраванне работнікаў адукацыі можа выклікаць супрацьлеглыя пачуцці. Стаўка сталага настаўніка - 10 мільёнаў, маладога спецыяліста - 7 мільёнаў. У школах не хапае выкладчыкаў замежных моваў, фізкіраўнікоў, дэфектолагаў, псіхолагаў. Школам горада -па 30 гадоў: дахі цякуць, штукатурка аблупліваецца, рамантуецца штогод удвая менш школаў, чым трэба. Словам, месца не даходнае. Аднак на што вучыўся - на тое і згадзіўся. Маладыя настаўнікі сёння ўсімі шляхамі стараюцца абмінуць школу, знайсці нейкую іншую працу. Знаёмы хлопец, які мае дзве вышэйшыя адукацыі - гісторыка і выкладчыка фізікі - пайшоў са школы ў каміваяжоры. І не шкадуе. А вось сталаму педагогу цяжка змяніць месца працы. Для іх настаўнік - гэта гучыць горда. Яны кампенсуюць нервы, слёзы і беднасць кветкамі на 1 верасня, удзячнасцю добрых вучняў. Добрыя, разумныя настаўнікі - гэта, мабыць, тое, з-за чаго школа становіцца роднай, другім домам.

**Алена Сіневіч**

## Ні вайны, ні паліўнай блакады, а бензіну - «ма»

**Каб заправіцца бензінам, гарадзенскія ўладальнікі аўтамабіляў мусяць займаць чаргу вечарам папярэдняга дня і ўсю ноч «бдець» у чаканні, калі запраўшчыца выдасць квіток на права заправіць 20 літраў паліва. Запаветныя цэтлікі, аднак, атрымліваюць не больш за пяцьдзесят вадзіцеляў, бо колькасць бензіну для запраўкі звычайна не перавышае адной тоны на запраўчную станцыю.**

За даляры можна заправіцца ў любы час, але атрымаецца ўдвая даражэй. Ды і дзе ўзяць тыя даляры?

**Б.Кашталян**

## Пачым кватэры для народа?

**У верасні ў Гродне (мікраёне Вішнявец-2) пачнецца будаўніцтва першага шматкватэрнага жылога дома па дзяржаўнай праграме жыллёвага будаўніцтва «Рацыянальны дом».**

Работы будуць выконвацца прадпрыемствам Гроднажылбуд. Галоўнай рацыянальнай рысай праекта стане спосаб фінансавання. Можна будзе засяліцца ў новую кватэру, накапіўшы праз траставы рахунак і выплаціўшы толькі 50 працэнтаў кошту жылля. Для інвестараў - імі могуць стаць усе жадаючыя палепшыць свае жыллёвыя ўмовы - квадратны метр агульнай плошчы каштуе прыкладна 200 умоўных адзінак. Ільготнікі (тыя, хто стаіць на чарзе на атрыманне жылля) маюць магчымасць будаваць жытло коштам 170 у.а. за метр квадратны.

Развіццё тэмы - у наступным нумары.

**Алеся Макоўская**

# Не адкладвайце падпіску на заўтра!

З сённяшняга нумара мы вымушаныя ў два разы павялічыць кошт нашай газеты. Трэба адзначыць, што гэтая падвышка ў 1999 годзе не будзе апошняй. Таму мы раім сваім сталым чытачам аформіць падпіску на ПАГОНЮ, бо мы палічылі мэтазгодным не мяняць падпісны кошт, ні цяпер, ні на працягу бліжэйшых чатырох месяцаў.

Спадзяемся на Ваша разуменне і падтрымку!!! І перш за ўсё таму, што сёння беларускай газеце няма ад каго чакаць падтрымкі і дапамогі акрамя як ад беларусаў - гэта значыць ад Вас, нашыя паважаныя чытачы.

**Нагадваем, што кошт падпіскі на нашу газету - 200 тысяч рублёў на месяц. Падпіска на квартал - 600 тысяч рублёў. Падпісны індэкс - 63 124.**

Звяртаем Вашу ўвагу на тое, што ПАГОНЯ мае таксама падпісны індэкс для ведамаснай падпіскі - 63 348. Гэта значыць, што ПАГОНЮ можна выпісаць па безнаяўнаму разліку на прадпрыемствы, установы, калгасы і г. д. Кошт ведамаснай падпіскі ў тры разы даражэй: на месяц 600 тысяч, на квартал 1 мільён 800 тысяч рублёў.

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

***АБАНЕМЕНТ*** на газету / ~~часопіс~~ **63124** індэкс выдання

***"ПАГОНЯ"***

(назва выдання) Колькасць камплектаў 1

На 19 99 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

***ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА***

на газету / ~~часопіс~~ **63124** індэкс выдання

***"ПАГОНЯ"***

(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | *600 тыс. руб.* | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____ руб. __ кап. | | |

На 19 99 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## Чаму трэба выпісаць ПАГОНЮ?

- таму, што Вы будзеце атрымліваць аператыўную і аб'ектыўную інфармацыю пра грамадска-палітычнае жыццё ў Прынямонні і на Беларусі.
- таму, што падпісаўшыся на нашу газету, Вы не словам, а справай дапаможаце нам у гэты цяжкі час, унесяце важкі ўклад у пабудову новай Беларусі.
- таму, што гэта Ваша газета!!!

# Дзень Беларускай Вайсковай Славы

## Да 485-годдзя Аршанскай бітвы

**Штогод 8 верасня патрыятычныя сілы нашай краіны адзначаюць Дзень Беларускай Вайсковай Славы. Яго святкаванне пачалося ў 1992 годзе, пасля перамогі над камуністычнымі путчыстамі (ГКЧП), калі было створана Беларускае Згуртаванне Вайскоўцаў (БЗВ), і Беларусь пачала сваё незалежнае жыццё.**

Тады, 8 верасня 1992 года, на плошчы Незалежнасці ў Менску афіцэры Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў, у тым ліку і афіцэры запасу і ў адстаўцы, як, напрыклад, Васіль Быкаў, прынеслі воінскую прысягу на вернасць Беларусі. Гэта было першае ўрачыстае святкаванне Дня Беларускай Вайсковай Славы, які звязаны з далёкім мінулым нашага народа - з бітвай пад Оршай 8 верасня 1514 года.

У той далёкі час абвастрыліся адносіны паміж Маскоўскім вялікім княствам (Расіі яшчэ не было) і Беларуска-Літоўскай дзяржавай (Вялікім княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім). Дыпламатычная барацьба паміж імі за ўплыў ва Усходняй Еўропе суправаджалася ваеннымі канфліктамі. А.С.Пушкін сказаў пра гэта так:

*Уже давно между собою*
*Враждуют эти племена,*
*Не раз клонилась пред грозою*
*То их, то наша сторона.*

У канцы 1512 года пачалася новая вайна. Вялікі князь маскоўскі Васіль III намагаўся захапіць беларускія землі. Толькі ў канцы ліпеня 1514 года гараджане Смаленска капітулявалі. Цяпер Васіль III загадаў свайму 80-тысячнаму коннаму войску пайсці далей у Беларусь - у Оршу і далей на Віленскім напрамку. На чале войска стаялі галоўныя ваяводы Іван Чаляднін і князь Міхаіл Булгакаў-Галіца (продак князёў Галіцыных). Насустрач ім выступіла 30-тысячнае беларускае войска, у складзе якога былі польскія атрады (паводле звестак расейскага гісторыка XX стагоддзя М.К. Любаўскага - чатыры тысячы коннікаў). Імі камандаваў найвышэйшы гетман князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі, дасведчаны палкаводзец і мужны рыцар. Асобныя атрады ўзначальвалі гарадзенскі староста Юрый Радзівіл і Іван Сапега.

Для бітвы І.Чаляднін выбраў вялікае поле на левым беразе Дняпра паміж Оршай і Дуброўнай ля ракі Крапіўны. Канстанцін Астрожскі таксама вырашыў даць тут бой. Ён лічыў, што аднаго-паўтара кіламетра ад Дняпра будзе дастаткова, каб разгарнуць свае сілы. Улічваўся таксама і псіхалагічны момант: немагчымасць для беларускага войска адступлення, бо ззаду быў стромкі бераг Дняпра.

7 верасня і ў ноч на 8 верасня Канстанцін Астрожскі пераправіў сваё войска з правага на левы бераг, конніцу - уброд, а пяхоту і гарматы ўначы (каб не ведаў і не пабачыў праціўнік) - па двух пантонных мастах са звязаных і заканапачаных бочак з насцілам над імі.

Бітва на полі за Дняпром адбылася 8 верасня 1514 года, у пятніцу. У час яе беларускае войска выступала пад чырвоным дзяржаўным сцягам з сярэбранай выявай Пагоні з аднаго боку, і выявай Багародзіцы з дзіцяткам Ісусам - з другога.

На карціне «Бітва пад Оршай» (напісана каля 1520 г.) відаць, што ў кожнага беларускага конніка ў руцэ была доўгая дзіда з белым сцяжком, уздоўж якога пасярэдзіне праходзіла чырвоная палоска, якая бліжэй да тронца была перакрыжавана другой чырвонай палоскай. Такі сцяг стаўся воінскім сцягам беларускіх жаўнераў ажно да XIX стагоддзя. Гэта быў прадвеснік нашага нацыянальнага і дзяржаўнага бел-чырвона-белага сцяга.

Перад бітвай малебен за перамогу адслужылі праваслаўныя святары: большасць вернікаў і сам К.Астрожскі былі праваслаўнымі. Маліліся і ксяндзы і нямала каталікоў, якія былі ў войску К.Астрожскага. З невялікай прамовай па-беларуску, звярнуўшыся да тых, хто знаходзіўся ў першых шэрагах, выступіў гетман К.Астрожскі. Ён нагадаў рыцарам пра слаўныя баявыя традыцыі продкаў, заклікаў быць мужнымі і абараняць Бацькашчыну.



**Канстанцін Іванавіч Астрожскі, ваеначальнік, дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Партрэт невядомага мастака. 1-я палова XVII стагоддзя**

Пачалася жорсткая бітва. Атаку пачаў полк правай рукі маскоўскага войска на чале з М.Булгакавым-Голіцай. Беларускія коннікі збівалі ворага дзідамі і рубілі шаблямі. Урэшце, конніца Булгакава-Голіцы была зламана, разбіта і пачала адступаць. Беларуская кавалерыя ўварвалася ў другую лінію маскоўскага войска. Яна гнала рэшткі палка правай рукі і, даганяючы, забівала ўцекачоў, нязвдольных ужо весці бой. Чаляднін у гэты час са сваімі асноўнымі сіламі на дапамогу Булгакаву-Голіцы не прыйшоў. Летапісы і гісторыкі тлумачаць гэтыя паводзіны Чаляднiна суперніцтвам паміж маскоўскімі ваяводамі і жаданнем кожнага атрымаць перамогу самастойна.

Яшчэ раней галоўны ваявода Іван Андрэевіч Чаляднін накіраваў свой полк левай рукі на супрацьлеглае - правае - крыло войска гетмана Астрожскага. Аднак наступ гэты быў не вельмі моцны і выконваўся нерашуча. Гэта дало магчымасць лёгкай кавалерыі адбіваць атакі маскоўскага войска на гэтым флангу, а асноўнай масе беларускага войска ўдарыць па палку Голіцы. Чаляднін не пераходзіў у рашучы наступ, чакаючы моманту, калі ў бой супраць яго палка левай рукі ўцягнуцца (пасля перамогі над палком Булгакава-Голіцы) харугвы і цяжкай, і лёгкай конніцы. Вось тады з дапамогаю свежых сілаў можна будзе адным моцным ударам разбіць праціўніка.

Урэшце Івану Чаляднiну здалося, што ён перамагае ў бітве. У нейкі момант ён убачыў, што коннікі Канстанціна Астрожскага спынілі контратакі і па загаду свайго гетмана пачалі адступаць, а потым кінуліся ўцякаць. Маскоўскія ваяры дачакаліся жаданай перамогі і пачалі пераслед. Тады Чаляднін кінуў у бой усе свае сілы. Але ў пэўны момант, недалёка ад лесу і кустоў (ля Дняпра), адступаючы, конніца падзялілася на дзве часткі, якія хутка зманеўравалі ў розныя бакі.

Уся бязладная маса маскоўскіх вершнікаў апынулася перад артылерыяй і пяхотай, што былі ў кустах на ўскрайку леса і ўжо даўно падрыхтаваліся да моцнага залпу. Маскоўская конніца была расстраляна не толькі пасля першага залпу, але і пасля далейшых стрэлаў гарматаў і рушніц (пішчаляў). Маскоўскія атрады панеслі вялікія страты ў людзях і конях. Пасля расстрэлу ў шэрагах маскоўскага войска пачалася паніка, і яно кінулася наўцёкі. Пачаўся пераслед. Спачатку Чаляднін спрабаваў угаварыць сваіх коннікаў затрымацца, але яго ўжо ніхто не слухаў. Адны ўцякалі ў лясы, другія - у балоты. Кроў забітых была не толькі на палях, але і сцякала ў раку Крапіўну, вада ў якой стала чырвонай. Шмат маскоўцаў падчас уцёкаў патанула ў рацэ.

Храніст М.Стрыйкоўскі гаворыць, спасылаючыся на звесткі маскоўскіх палонных, што на полі бою і на розных месцах падчас уцёкаў засталося больш за 40 тысяч забітых маскоўцаў, акрамя тых, што патанулі ў Крапіўне. Страты маскоўскага войска палоннымі перавышалі пяць тысяч чалавек. У палон трапілі галоўныя ваяводы маскоўскія І.Чаляднін і М.Булгакаў-Голіца, восем вярхоўных ваяводаў, 37 военачальнікаў меншага рангу, дзве тысячы «дзяцей баярскіх» і больш за дзве тысячы воінаў, а таксама вайсковых слугаў - усяго больш за пяць тысяч чалавек.

Перамога ў Аршанскай бітве дазволіла адваяваць Дуброўну, Мсціслаў і Крычаў. Была ўсталявана ўсходняя мяжа Беларусі, якая практычна захавалася да нашага часу.

Маскоўскі Васіль III (як праз некалькі стагоддзяў Сталін) заявіў, што для яго тыя, хто трапіў у палон, - мёртвыя. Дзесяткі гадоў заставаліся палонныя ў Вільні і ў розных вялікакняскіх дварах і валасцях. Чаляднін памёр у Вільні праз некалькі гадоў, Булгакаў-Голіца вярнуўся на радзіму праз 38 гадоў - у 1552 -і памёр праз два гады.

Вялікі князь Жыгімонт Казіміравіч у Вільні наладзіў урачысты прыём у гонар князя К.І.Астрожскага і рыцараў-пераможцаў. Канстанцін Астрожскі зрабіў у сталіцы багатую фундацыю царкве Свята-Духаўскага праваслаўнага манастыра - у падзяку Богу за дараваную перамогу.

Аршанская бітва 8 верасня 1514 года была адной з буйнейшых бітваў на тэрыторыі Еўропы ў пачатку XVI стагоддзя. Яна пакінула глыбокі след у грамадстве. Яе адлюстравалі ўсе тагачасныя, у тым ліку і рускія, летапісы і хронікі. У Германіі выйшаў спецыяльны друкаваны лісток, у якім апісвалася бітва. З таго часу захавалася беларуская народная песня пра перамогу пад Оршай «Ой, у нядзельку параненька ўзышло сонца хмарненька...», якую цяпер выконваюць беларускія барды. Адзін з удзельнікаў бітвы напісаў каля 1520 года карціну «Бітва пад Оршай», якая лічыцца першай батальнай карцінай ва Усходняй Еўропе.

Бітва пад Оршай вывучалася ў вайсковых вучэльнях дарэвалюцыйнай Расіі. Як прыклад вайсковага таленту гетмана Астрожскага, яна прыведзена ў Расейскай ваеннай энцыклапедыі (1914 г.).

Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 года ёсць і застаецца славутай старонкай беларускай вайсковай гісторыі, якая багатая на іншыя перамогі беларускай зброі. Аднак аршанская перамога вылучаецца з іншых сваёй асаблівасцю: перамога малых сілаў над амаль утрая большым войскам. Таму дата, калі яна адбылася, і з'яўляецца Днём Беларускай Вайсковай Славы. Бітва арганічна ўвайшла ў гісторыю Беларусі як адна з яе слаўных старонак.

**Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, прафесар**

# За свабоду, незалежнасць!..

**Мінгарвыканкам дазволіў Беларускаму Народнаму Фронту правесці 8 верасня шэсце і мітынг «За свабоду, незалежнасць, правы чалавека». Акцыя прымеркавана да святкавання Дня Беларускай вайсковай Славы. У гэты дзень у 1514 годзе войска Вялікага княства Літоўскага пад камандаваннем гетмана Канстанціна Астрожскага разбілі пад Оршай расейскае войска.**

Удзельнікі акцыі збяруцца ў 17.30 на сталічнай плошчы Парыжскай камуны. Адтуль удзельнікі гэтага мерапрыемства накіруюцца ў парк Я.Купалы, дзе ў 18.30 пачнецца мітынг і тэатралізаванае прадстаўленне. Мяркуемая колькасць удзельнікаў акцыі — да 10 тысяч чалавек.

Варта адзначыць, што гарадскія ўлады змянілі маршрут руху калоны. Арганізатары папярэдне прадугледжвалі правесці яе ад плошчы Я.Коласа па праспекце Ф.Скарыны да купалаўскага парку. Па шляху свайго руху ўдзельнікі шэсця павінны былі ўскласці кветкі да абяліску Перамогі. Цяпер арганізатарам акцыі, відавочна, ад ускладання кветак давядзецца адмовіцца.

**Юрый Пацёмкін**

# Шарэцкі прапанаваў, а Чыгір адмовіўся

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Сямён Шарэцкі, які цяперашнім часам знаходзіцца ў Вільні, накіраваў дэпутатам Вярхоўнага Савета Прадстаўленне па ўзгадненню кандыдатуры Міхаіла Чыгіра на пасаду прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь.**

У Прадстаўленні ўтрымліваюцца падрабязныя біяграфічныя дадзеныя М.Чыгіра. Паводле пераканання Сямёна Шарэцкага, «прафесійная падрыхтоўка і вопыт працы М.Чыгіра даюць усе падставы спадзявацца, што з пасадай прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь у гэты адказны момант ён паспяхова справіцца». «Хацелася б, — гаворыцца ў Прадстаўленні, —каб пры абмеркаванні кандыдатуры Міхаіла Чыгіра на пасаду прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь былі прынятыя да ведама і яго маральна-этычныя якасці. Міхаіл Мікалаевіч адкрыта кінуў выклік кіраўніку дзяржавы і ягонаму атачэнню, якое ў лістападзе 1996 года ўчыніла дзяржаўны пераварот, а калі напачатку 1999 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 13-га склікання прызначыў чарговыя выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, ён праявіў мужнасць і вылучыў сябе кандыдатам, за што заплаціў турэмным зняволеннем».

С.Шарэцкі даручыў зачытаць дадзенае Прадстаўленне на бліжэйшай сесіі Вярхоўнага Савета (яна першапачаткова запланавана на 9—10 верасня) свайму першаму намесніку Віктару Ганчару, паколькі сам ён, як адзначаецца ў Прадстаўленні, не зможа гэтага зрабіць «па вядомых прычынах».

Як стала вядома, 1 верасня Міхаіл Чыгір даў адказ на прапанову Сямёна Шарэцкага ўзначаліць урад. Праз свайго адваката ён перадаў наступнае: «Паважаны Сямён Георгіевіч, сёння падчас сустрэчы са сваім адвакатам мне стала вядома пра тое, што Вы перадалі на зацвярджэнне Вярхоўнага Савета маю кандыдатуру на пасаду прэм'ер-міністра. Дзякую Вам за давер, аднак, на жаль, цяперашнім часам гэта ажыццявіць немагчыма. Па вядомых Вам прычынах, я не магу прыняць Вашу прапанову. Міхаіл Чыгір». Жонка і адвакат экс-прэм'ера Юлія Чыгір у гутарцы з карэспандэнтам сказала, что каментаваць дадзеную заяву няма неабходнасці. «Муж усё, што хацеў сказаць, сказаў у сваім адказе Сямёну Шарэцкаму», — заявіла яна.

Варта адзначыць, што цяперашнім часам у палітычных колах краіны ходзяць чуткі аб хуткім вызваленні Міхаіла Чыгіра, які знаходзіцца ў зняволенні з 30 сакавіка б.г. Гэта, быццам бы, звязана з рыхтуемымі перамовамі паміж афіцыйнымі уладамі і апазіцыяй: як вядома галоўнай умовай для пачатку перамоўнага працэсу збоку апазіцыі з'яўляецца вызваленне палітзняволеных. Адначасова ў сённяшнім нумары «Белорусской деловой газете» апублікавана інтэрв'ю кіраўніка следчага камітэта МУС, намесніка міністра ўнутраных справаў Леаніда Глухоўскага, у якім ён паведаміў, што тэрмін папярэдняга следства па крымінальнай справе супраць М.Чыгіра заканчваецца 30 верасня і да таго часу следства плануе накіраваць справу ў суд па шасцісямі эпізодах. Сярод іх —злоўжыванне службовым становішчам, перавышэнне ўлады і службовых паўнамоцтваў, халатнасць.

Апрача таго, паводле слоў Л.Глухоўскага, некаторыя эпізоды крымінальнай справы «звязаныя не толькі з працай Чыгіра ў банкаўскай сферы, але і на пасадзе прэм'ер-міністра».

**Уладзімір Глод, Наталля Кулагіна**

# Кучму просяць падумаць

**Вядомыя беларускія палітыкі-апазіцыянеры — Лявон Баршчэўскі, Алесь Бяляцкі, Вінцук Вячорка, Юрый Хадыка, Віктар Івашкевіч і Уладзімір Падгол — выступілі са зваротам да палітычных партый, грамадскіх арганізацый і грамадзянаў Украіны ў сувязі з намерам прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы наведаць з афіцыйным візітам Беларусь і сустрэцца з Аляксандрам Лукашэнка.**

«Просім вас нагадаць прэзідэнту Украіны, што паводле беларускай Канстытуцыі і прынцыпаў міжнароднага права, пасля 21 ліпеня Аляксандар Лукашэнка не з'яўляецца прэзідэнтам Беларусі - гаворыцца ў звароце. — Ён адмовіўся праводзіць свабодныя выбары і самавольна, праз незаконны і фальсіфікаваны рэфэрэндум, падоўжыў сабе прэзідэнцкія паўнамоцтвы. Захопу ўлады не прызналі практычна ўсе дэмакратычныя краіны свету. Цяпер узурпатара прызнаюць «законным прэзідэнтам» хіба што Югаславія, Расія, Куба, Ірак ды шэраг іншых афра-азіяцкіх краін». Аўтары звароту лічаць, што «кожны, хто цяпер сустрэнецца з Лукашэнкам як з прэзідэнтам Беларусі, фактычна становіцца саўдзельнікам узурпатара».

Выказваючы меркаванне, што, «магчыма, прэзідэнту Кучме гэтая паездка патрэбна, каб перад хуткімі прэзідэнцкімі выбарамі здабыць папулярнасць у тых жыхароў Украіны, якім даспадобы Лукашэнка», падпісаўшыя зварот палітыкі лічаць такую сустрэчу «палітычнай і маральнай памылкай» украінскага лідара. «Улада Лукашэнкі прынесла беларускаму народу ганьбу і пакуты. Краіну гвалтам вяртаюць у савецкі час з яго галечай і безнадзейнасцю, — гаворыцца ў звароце. — Разбурана эканоміка, але пры гэтым людзі пазбаўленыя магчымасці сваёй галавой і рукамі нармальна зарабляць дзеля сябе і сваіх дзяцей. У краіне мноства палітычных вязняў, задушана свабодная прэса. Топчацца беларуская мова, зневажаецца беларуская гістарычная памяць».

«Галоўная ж віна Лукашэнкі перад беларускім народам, —лічаць аўтары звароту, — гэта вынішчэнне незалежнасці Беларусі. Не маючы палітычных перспектыў у сваёй краіне, ён намагаецца купіць сабе месца ў Крамлі коштам здрады беларускай дзяржавы. Падтрымліваць Лукашэнку — значыць ухваляць аднаўленне Расейскай імпэрыі».

**Юрый Аляксееў**







# Даруй, Надзея...

**Мілая, харошая! Ты так хацела жыць! З роднай Украіны прыехала да брата ў вёску Накрышкі Дзятлаўскага раёна са шчырым спадзяваннем, што тут выратуешся ад смерці. На Украіне за лячэнне ўжо трэба плаціць, а ў Беларусі гэта яшчэ робяць бясплатна. Ты спазнілася, Надзея... З нядаўняга часу і ў нас іншаземцам трэба плаціць за медыцынскія паслугі. А ты іншаземка.**

На кожнай вялікай чыгуначнай станцыі выклікалі "хуткую дапамогу". Рабілі ўколы, і ты ехала далей. Слабая, ледзь жывая. Цукровы дыябет амаль дабіў цябе. А тут яшчэ невыносны боль нагі. Гангрэна... Патрэбна тэрміновая ампутацыя.

Калі цябе паклалі ў Дзятлаўскую раённую бальніцу, урачы жахнуліся: хваробы настолькі запушчаныя, што і ўявіць цяжка. Медыкі пачалі рыхтаваць цябе да аперацыі з той умовай, што заплаціш за яе. Але як ты магла заплаціць, калі за душой ні капейкі, калі дома пакінула чацвёра дзяцей амаль што без сродкаў для існавання.

За аперацыю і дзесяцідзённае пасляаперацыйнае лячэнне трэба было аддаць 112 мільёнаў рублёў. Не аказалася такіх грошай і ў брата. Яго жонка з дачкой, плачучы, прыйшлі да мяне:

— Дапамажыце! Нас прыслала доктарка...

Чым і як дамагчы, дзе ўзяць гэтыя мільёны?! Мы разам пайшлі па раённых інстанцыях, прасіць паратунку. Але з гэтай сітуацыі было толькі адно выйсце: трэба знайсці грошы і заплаціць. І твае братавая з пляменніцай пазычылі ў добрых людзей даляры, абмянялі іх на беларускія мільёны і ўнеслі плату ў бальнічную касу. Каб хоць неяк дапагчы ім вярнуць грошы, я звярнулася ў дзятлаўскія банкі з просьбай адкрыць рахунак для збору сродкаў на тваё лячэнне. У гэтым было адмоўлена, сказалі, што патрэбны дазвол Міністэрства аховы здароўя. Але займацца гэтым не было часу, ды, відаць, не было і сэнсу.

А хвароба прагрэсіравала. У цябе пачаўся сепсіс, іншымі словамі, заражэнне крыві. Паколькі грошы за аперацыю былі заплачаны, медыкі паклалі цябе на аперацыйны стол.

А мы збіралі грошы... Супрацоўнікі абанементнага аддзела раённай бібліятэкі, казлоўшчынскія бібліятэкары ўзялі на сябе гэту справу. Мы з загадчыцай абанементнага аддзела раённай бібліятэкі Ларысай Шыцько пайшлі з працягнутай рукой па ўстановах райцэнтра. Тлумачылі сітуацыю, прасілі. У некаторых месцах натыкаліся на нядобразычлівыя позіркі і слухалі словы, ад якіх стыне кроў у жылах: "А чаму мы павінны ёй дапамагаць?", "Чаго яна сюды ехала, няхай бы там лячылася?", "Яна іншаземка, а тут сваіх лячыць не паспяваем".

Мы назбіралі некалькі мільёнаў і хацелі занесці іх табе ў бальніцу, але тут патэлефанавала твая братавая і з плачам паведаміла, што ты... памерла! Табе аднялі нагу, але было надта позна...

Мы хутчэй кінуліся па ўстановах аддаваць сабраныя грошы, каб людзі не падумалі чаго нядобрага: збіралі на лячэнне, а чалавека ўжо няма.

Твой муж прыехаў з Украіны, калі ты яшчэ была жывая. А дзеці... Ім нават не паведамілі, што ты памерла, Надзея! А што толку паведамляць? Толькі заўчасна прыносіць боль, бо аб тым, каб завезці цябе на радзіму і там пахаваць, не магло быць і размовы. Дзе ж набрацца столькі грошай? Дзяцей сюды прывезці таксама не выпадала.

— За якія сродкі? У іх там нават на хлеб няма, — казала мне адна знаёмая.

На другі дзень пасля смерці цябе пахавалі на вясковых могілках у Накрышках. Непадалёку ад хаты, дзе жыве брат.

Даруй, Надзея! Даруй сваіх няшчасных дзетак, што не прыехалі развітацца з табой, паплакаць над тваёй труной. Не іхняя ў тым віна. Яны будуць плакаць па табе ўсё жыццё, асабліва меньшанькая, Таня, якая восенню пойдзе толькі ў пяты клас.

Даруй наша грамадства і нашу дзяржаву. Пасля таго, як у бліжнім замежжы лячэнне стала платным, у Беларусь адусюль пачалі ехаць няшчасныя людзі дзеля выратавання свайго жыцця. Ну, лячэнне — няхай бы. Калі пытанне жыцця і смерці востра не стаіць — няхай бы плаціці і лячыліся. А ты ж памірала, Надзея! Ты ляжала на бальнічным ложку, і твар твой быў бялейшы за навалачку на падушцы. І толькі калі плакала, шчокі крыху чырванелі. Ты плакала і прасіла аб дапамозе, бо ў сваё 44 гады так хацела жыць, а мы ў адчаі бегалі па Дзятлаве ў пошуку грошай.

Калі пачалася вайна ў Югаславіі, мы крычалі пра братоў-славян, маўляў, дапаможам ім у бядзе. Ты ж таксама была славянкай. Тваё жыццё было ацэнена ў 112 мільёнаў. Каб мы знайшлі іх своечасова, можа ты сёння ўсміхалася б жвіненькаму сонейку, чакала б пісьмы ад дзяцей, а не ляжала б, адзінокая, пад хвойкамі на Накрышскіх могілках.

Даруй, Надзея, і не помні зла, бо як бы там ні было, а цябе ратавалі. Дзятлаўскія ўрачы рабілі ўсё магчымае, каб вырваць цябе з лапаў смерці. Толькі і яны, на вялікі жаль, не багі. Не іх віна, што хваробы твае былі моцна запушчаныя і што лячэнне для іншаземцаў стала платнае.

Простыя людзі, якія, таксама як і ты, сталі заложнікамі галечы, і ў чыіх душах жыве спагада і дабрыня, збіралі для цябе грошы. Але, на вялікі жаль, іх было няшмат. І ў гэтыя пакутлівыя дні, калі ты памірала, я вельмі востра адчувала: бяда нашага грамадства не ў матэрыяльнай галечы, а ў духоўнай. З людскіх сэрцаў знікла спагада да беднага і хворага. Многія жывуць па прынцыпу "абы мне было добра".

Калі ты памерла, Надзея, мы зноў пачалі збіраць грошы. Цяпер ужо для тваіх дзяцей, каб хоць неяк падтрымаць іх у горы. Склалі разам сабраныя сотні тысяч і купілі 50 даляраў. Іх павязе дадому твой муж. Што ён будзе казаць сынам і дочкам, як сустрэнуць іх?

А ты назаўсёды застанешся ў Беларусі.

**Леанарда Юргілевіч, «ГС»**

# Век зарплаты не відаць!

**Нядаўна па расейскаму тэлеканалу РТР абмяркоўвалі ў вядомым ток-шоу «Мая сям'я» праблему нявыплаты заробку ў Расіі. Народ у студыі прычыну сваёй цярпліваці тлумачыў традыцыйна: «А што ад нас залежыць?» Вядучы ж, наадварот, нахабства працадаўцаў выводзіў наўпрост з маўклівасці працоўных.**

Што ў Расіі, што ў нас, народ маўклівы, гэта праўда. Думаецца, аднак, што зарплаты расейцы нейкім чынам для сябе дамагліся б, але не гэта яны лічаць галоўным у сваім жыцці. Ім бы ў Чачні павяваць, Саддаму Хусэйну дапамагчы, правы рускамоўных камуністаў у Прыбалтыцы абараніць, NATO напалохаць і ніякім разам не аддаць Японіі тры ейныя выспы, не гаворачы пра інтэрнацыянальную славянска-праваслаўную дапамогу сябру Мілошавічу і інтэграцыю з малодшым братам Лукашэнкам.

Сярод першапачатковых мэтаў расейцаў няма такіх рэчаў, як зарплата, дабрабыт, закон і парадак. Няма іх і сярод другарадных каштоўнасцяў. Не даюць зарплату месяц - працоўны маўчыць, баіцца выказацца, выклікаць гнеў начальніка. Не даюць два, тры, пяць - маўчыць, радуецца, што недзе некаму яшчэ горай. Не даюць шэсць месяцаў, год - махае рукой і працуе дарам.

Тады, можа быць, расеец цярпіць-цярпіць, але ўжо на выбарах аддасць галасы тым, хто паклапоціцца пра яго годнае жыццё? Ні ў якім выпадку. Паглядзіце, хто ў іх наперадзе ў разнастайных палітычных рэйтынгах. Першым ідзе бюракрат брэжнеўскай загартоўкі, некалі пасняховы шпіён пад дахам журналістыкі, а сёння - хворы дзед з шамкаючай гаворкай, які камуністычна-гэбісцкім мінулым, які напачатку кар'еры выракся свайго сапраўднага прозвішча, назваўшыся дастаткова дасціпна і сімвалічна -Прымакоў.

Другі радок рэйтынгаў займае камуніст Зюганаў. Як кіравалі Расіяй камуністы - усім добра вядома. Якімі камуністы былі - такімі і засталіся, такія ўжо гэтыя людзі. Тым не менш,




слаўныя ленінцы, дзяржынцы, сталінцы, хрушчоўцы і гэтак далей нейкім чынам звязаныя ў народным уяўленні з надзеямі на справядлівае кіраванне і прыдатнае ўладкаванне жыцця.

Недзе паблізу ад лідараў рэйтынгу заўсёды мэр Масквы Лужкоў, расейскі Чынгіз-хан паводле сваёй ідэалогіі, алігарх ад палітыкі і бізнесу, «компру» на якога распаўсюджваюць канкурэнты ва ўсё больших памерах і ад якой адмыцца ён ніяк не можа, хаця вельмі прагне. Дзесьці недалёка ад узгаданай тройкі - генералы Сцяпашын і Лебедзь. І толькі заўжды апошні Яўлінскі больш-менш падобны на лідара, які адпавядае выкліку XXI стагоддзя, які за турботамі пра сусветную гегемонію не забудзе пра зарплаты працоўным, навядзенне законнасці ды іншыя «чалавечыя фактары».

Калі дабрабыту расейцаў замінае экспансія агульнанацыянальная, гістарычна ўсвядомленая большасцю народа, то прычынай жабрацтва беларускага народа і ягонай несвабоды выступае экспансія ўсяго аднаго чалавека, якому дапамагаюць некалькі дасведчаных у гэтай справе расейскіх палкоўнікаў, якія сталі міністрамі сувярэннай Беларусі.

Гэтую экспансію сам герой падае як вышэйшую форму народнай волі, а жабрацтва і галоту называе дэмакратыяй. Памятайце: дэмакратыя - гэта мізэрная зарплата, крыху хлеба, тварагу і мяса дзеткам (апошняе зімой, а летам - неабавязкова). А калі курыца, бананы, рыба, крый божа, ананас - якая ж гэта дэмакратыя?

Вось тут мы нарэшце знайшлі тое, што нас аб'ядноўвае з рускімі. Утварэнне саюза РБ і РФ - гэта супадзенне ў адзін вектар дзвюх экспансіяў, якія выціскаюць апошнія сілы сваіх народаў.

**Сяргей Самасей**

# На беларускай зямлі - «рускі парадак»?

**Гродна - гэта заходні бастыён беларускасці. Але дыверсанты-баркашоўцы размалёўваюць муры будынкаў, аўтобусныя прыпынкі, сцэны з заклікамі ўсталяваць на беларускай зямлі «рускі парадак»... мангола-татарскай сталі.**

Ну, ці не выклік гэта, спадары бульбашы, усім нам, а таксама непасрэдна Гарадзенскай філіі БНФ, Маладому Фронту ды іншым беларускім арганізацыям горада і раёна, калі гарадзенская міліцыя ды яе ваяўнічы АМАП зноў спяць у шапку?

**Алесь Шустоўскі, г.Барысаў**

# Інтэграсты супраць рамонту дарог

**Жыхары Гродна памятаюць, як мясцовыя дарожнікі ўдарнымі тэмпамі ўкладвалі новы асфальт на вуліцы горада напачатку лета. Чакалі візіту ў горад братоў-інтэграстаў аж з самой Югаславіі. Але нешта не заладзілася, і злучку славянаў у адну дзяржаву перанеслі на больш позныя тэрміны.**

Гарадзенскія дарожнікі, калі даведаліся пра інтэграцыйны аблом, адразу кінулі мітусіцца на вуліцах. А можа грошы скончыліся. Цяпер на вуліцы Урублеўскага, да прыкладу, адзін бок дарогі заасфальтаваны (але не да канца, якраз перад светлафорам самыя калдобіны), а другі - не. Вуліцу і ўезды у жылую зону падзяляе глыбокі роў. У арцы паміж дамамі N 58 і 68 нейкія будаўнікі свідравіны, а пляцоўка перад магазінам «Палессе» нагадвае бялградскую плошчу пасля бамбёжкі.

Вось я і думаю: а што, калі інтэграсты ўвогуле перадумаюць і зменяць арыентацыю? Тады што, дарогі зусім не будуць рамантаваць?

**Б.Кашталян**

# Развітанне са славянкай

**У Літве ўжо ёсць гарады і цэлыя раёны, у якіх не засталося ніводнага «айчыннага» аўтамабіля - няма больш «Волгаў», «Жыгулей», «Масквічоў», «Запарожцаў», а таксама «газікаў» і «уазікаў». Насельніцтва цалкам перасела на іншамаркі. Дарэчы, для Літвы (як і для Беларусі!) «жыгуль» - таксама «іншамарка»...**

Першым такім горадам стаў Марыямполе (былы Капсукас). Калі там з уліку ў ДАІ здымалі апошняга «жыгуля» (яго купіў нейкі прыезджы з Урала), то наладзілі ўрачыстыя правады. Новаму ўладальніку ўручылі сувеніры, а духавы аркестр выканаў славуты марш «Развітанне са славянкай».

А добра ж, калі людзі з мінулым развітваюцца са смехам, а не са злосцю і абяцаннем: мы яшчэ сустрэнемся, сволач!

**Лявон Даўгяла**

# «Свяцейшы візіт Патрыярха ў Слонім» меў працяг

**Шаноўны спадар рэдактар! У Вашай газеце за гэты год у нумары 49 (426) пад назваю «Свяцейшы візіт Патрыярха ў Слонім» ад 5 жніўня надрукавана інтэрв'ю пра наведванне беларускіх вернікаў уладыкам Юрыем (Рыжым), за што выказваем Вам і Вашай газеце шчырую падзяку і дабраслаўленне на плённую службу Бацькаўшчыне!**

Разам з тым просім даць у Вашай газеце тры ўдакладненні:

1. Уладыка Юры (Рыжы) з'яўляецца Патрыярхам Амерыканскага Сусветнага Патрыярхату і адначасова Архіепіскапам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Народнай Царквы. Прозвішча Рыжы-Рыжскі насіў старэйшы брат Юрыя Уладзіслаў (таксама быў уладыкам).

2. Айцец Іаан, які суправаджаў Уладыку Юрыя ў паездцы па Гарадзеншчыне, не архімандрыт, а протаіерэй і сакратар-адміністратар БАПНЦ. Патрыярхату БАПНЦ на Бацькаўшчыне пакуль што не існуе.

3. Пераклад Евангелля (Новы Запавет) на беларускую мову Васіля Сёмухі быў выдадзены не ў Нью-Ёрку, а ў Менску.

**З павагаю Протаіерэй Леанід Акаловіч, Сакратарыят БАПНЦ на Бацькаўшчыне, 16 жніўня 1999 г.**

# Страты ад пажару ў лямусе ацэненыя ў 370 мільёнаў - не хопіць нават на замену рамаў

**У канцы лютага ПАГОНЯ паведамляла пра тое, што ў Гродне згарэў помнік гісторыі XVIII стагоддзя - лямус, які месціцца па вуліцы Дзяржынскага, 1 «а».**

Гэты дом быў перададзены гарвыканкамам у рукі фірмы «Простор-инвест» некалькі гадоў таму. Фірма распачала ў лямусе рамонт, але так і не скончыла яго. Лямус доўга стаяў беспрытульна, пакуль яго не спалілі бамжы, якія атабарыліся пад ягоным дахам. Пасля пажару гарвыканкам прачнуўся і выграшыў спагнаць з фірмы «Простор-инвест» 370 мільёнаў рублёў штрафа за парушэнне дагавора куплі-продажу будынку. Рашэннем суда гэтыя грошы былі спагнаныя.

Але што такое 370 мільёнаў? У пераліку на «бакінскія рублі» гэта менш за тысячу. За гэтыя грошы можна зрабіць рамонт кухні ў «хрушчоўцы». З іншага боку, а ці не сам выканкам вінаваты ў тым, што доўгія гады не цікавіўся лёсам гістарычнага помніка? А ёсць жа яшчэ спецыяльныя службы, якія атрымліваюць грошы за захаванне гістарычнай спадчыны ў нашым старажытным горадзе. Можа было б варта і з іх спагнаць штраф -за нядбайнасць?!

**Сяргей Самасей**

# Падарунак да Дня ведаў

З 1 верасня пачалі дзейнічаць новыя тарыфы на электраэнергію: гарадскому насельніцтву свет каштуе 1220 рублёў за адзін кВт/гадзіну, вяскоўцам — 820 рублёў за адзін кВт/гадзіну.

# Чаго варты чалавек?

Жанчыне, якая знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку па дагляду за дзіцяцем, дзяржава плаціла ў жніўні бягучага года крыху болей трох мільёнаў рублёў, а на дагляд міліцэйскай сабакі-аўчаркі ў службе аховы выдавалі сем мільёнаў рублёў.

**Язэп Палубятка**

# Інфляцыя ўстанавіла рэкорд

**Жнівень стаў рэкордным месяцам бягучага года па ўзроўню інфляцыі ў рэспубліцы.**

Дадзеныя Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь пакуль не апублікаваны, аднак грамадзяне па сваіх кішэнях ужо адчулі ўсю прыгажосць жнівеньскіх падаражанняў. Толькі бензін і дызельнае паліва даражалі чатыры разы. Не складаюць выключэнне і мука, макароны, яйкі і г. д.

Паводле дадзеных аналітычнага цэнтра «Рынкавая эканоміка», за 27 дзён жніўня інфляцыя ў рэспубліцы склала 21,33 працэнта. Атрымоўваецца, што ў цэлым за апошні месяц лета інфляцыя перавысіла 22 працэнты. Хаця беларускія ўлады планавалі паказчык у пяць-шэсць працэнтаў у месяц. Да таго ж інфляцыя «закладзена» і ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1999 год»... Як бачым, паказчыкі плана разыходзяцца з рэчаіснасцю - у тры з паловай разы.

Паводле інфармацыі аналітычнага цэнтра «Рынкавая эканоміка», найбольш у жніўні падаражалі:
- бензін - на 56,9 працэнта;
- дызельнае паліва - на 39,1;
- мука - на 50,2;
- макаронныя вырабы - на 38,3;
- грэцкія крупы - на 22,8;
- рыс - на 20,1;
- шпроты - на 48,8;
- алей раслінны - на 30,3;
- свініна і ялавічына - у сярэднім на 30 працэнтаў;
- кава - на 21,2;
- паслугі насельніцтву - на 26,3 працэнта і г. д.

«Нашмат» толькі не падаражала гарэлка - усяго на пяць працэнтаў. Спойванне народа працягваецца. Хутка цана адной бутэлькі гарэлкі будзе роўная аднаму Чупа-Чупсу ці іншай цукерцы. І праўда, не лізні цукерачку - выпі бутэлечку, і ў Беларусі ўсё добра, і на душы таксама ўсё добра.

На адзінаццаць працэнтаў за жнівень патаннеў беларускі рубель. Аднак, як сцвярджаюць эканамісты аналітычнага цэнтра «Рынкавая эканоміка», усе «кветачкі» для беларускай грашовай адзінкі яшчэ наперадзе. «Бутоны» раскрыюцца недзе да 15-16 верасня, сцвярджаюць эканамісты цэнтра.

Вялікі ўплыў на падзенне беларускага рубля ў верасні зробіць звышпланавая эмісія, ліпеньскія крэдыты на збор ураджая аграпрамысловаму комплексу, застой курса ў чэрвені-ліпені бягучага года і, канешне ж, 22-працэнтная жнівеньская інфляцыя.

Магчыма, значны ўдар па беларускаму рублю будзе зроблены і ад павышэння ў кастрычніку мінімальнага заробка.




# Таваразабарот з Расіяй «упаў»

**Паводле дадзеных Міністэрства статыстыкі і аналіза Рэспублікі Беларусь, аб'ём знешняга гандлю за першае паўгоддзе 1999 года склаў 5,929 мільярда даляраў ЗША, у тым ліку экспарт - 2,867 мільярда, імпарт - 3,063 мільярда даляраў ЗША.**

Праведзеныя Мінстатам разлікі індэксаў сярэдніх коштаў на экспартуемыя тавары ў краіны СНД, у тым ліку ў Расейскую Федэрацыю і так званае далёкае замежжа, паказалі, што за студзень-чэрвень 1999 года ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага года ў даляравым эквіваленце экспарт знізіўся на 20,89 працэнта. Пры гэтым у Расейскую Федэрацыю - на 39,19 працэнта, на Украіну - на 46,73 працэнта і г. д. па краінах СНД. У той жа час у даляравым эквіваленце экспарт у Латвію ўзрос на 334,5 працэнта, у Польшчу - на 33,92 працэнта, у Вялікабрытанію - на 93,37 працэнта, у Кітай - на 61,29 працэнта, у Германію - на 13,22 працэнта. Як мы бачым, дынаміка роста экспарта беларускіх тавараў у далёкае замежжа не ўпісваецца са зніжэннем экспарта ў краіны СНД. Аднак суцэльная арыентаванасць беларускай эканомікі на ўсходні расейскі рынак па-ранейшаму падтрымлівае «асноўны» экспарт у Расейскую Федэрацыю. На першае ліпеня першы дзесятак дзяржаваў па беларускаму экспарту выглядае наступным чынам:

1. Расія - 1 мільярд 531,4 мільёна даляраў ЗША
2. Латвія - 143,5 мільёна даляраў ЗША
3. Украіна - 126,9 мільёна даляраў ЗША
4. Польшча - 105,8 мільёна даляраў ЗША
5. Германія - 104,5 мільёна даляраў ЗША
6. Літва - 83,1 мільёна даляраў ЗША
7. Кітай - 74,9 мільёна даляраў ЗША
8. Італія - 32,7 мільёна даляраў ЗША
9. ЗША - 32,4 мільёна даляраў ЗША
10 Вялікабрытанія - 32,1 мільёна даляраў ЗША.

Паводле дадзеных Мінстата, індэкс сярэдніх коштаў на імпартуемыя тавары за студзень-чэрвень 1999 года ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага года знізіўся на 32,1 працэнта ў даляравым эквіваленце. Пры гэтым змяншэнне імпарту адбылося як з краінаў СНД, так і з далёкага замежжа. Аднак найбольш імпарт знізіўся з Украіны - болей чым у два разы, з Латвіі - у два з паловай разы, з Расейскай Федэрацыі - на 46,74 працэнта, з Вялікабрытаніі - на 106 працэнтаў. На першае ліпеня першая дзесятка дзяржаваў па імпарту ў Рэспубліку Беларусь выглядала наступным чынам:

1. Расія - 1 мільярд 656,5 мільёна даляраў ЗША
2. Германія - 378,2 мільёна даляраў ЗША
3. Украіна - 199,1 мільёна даляраў ЗША
4. Польшча - 93,8 мільёна даляраў ЗША
5. Італія - 77,2 мільёна даляраў ЗША
6. Літва - 58,9 мільёна даляраў ЗША
7, ЗША - 47,1 мільёна даляраў ЗША
8. Нідэрланды - 38,2 мільёна даляраў ЗША
9. Вялікабрытанія - 36,1 мільёна даляраў ЗША
10. Кітай - 16,6 мільёна даляраў ЗША.

У студзені-чэрвені 1999 года ўдзельная вага бартэрных аперацыяў склала 37,6 працэнта агульнага аб'ёма экспарту і 34,4 працэнта ад аб'ёма імпарту. Пры гэтым дзевятую частку ўсяго бартэра складае гандаль з Расіяй і Украінай. Гэта і зразумела - у суседзяў, як і ў беларусаў, наяўных сродкаў няма.

У цэлым, калі браць за сто працэнтаў знешні таваразабарот беларусаў з партнёрамі ў першым паўгоддзі гэтага года, то на долю Расейскай Федэрацыі прыпадае 53,8 працэнта, Германіі - 8,1 працэнта, Украіны -5,5 працэнта, Польшчы - 3,4 працэнта, Латвіі - 2,7 працэнта, Літвы -2,4 працэнта, Італіі - 1,9 працэнта, Кітая - 1,5 працэнта, Вялікабрытаніі - 1,2 працэнта, Нідэрландаў - 1,1 працэнта.

Такім чынам, болей за палову таваразабарота Беларусі прыпадае на Расію. У 1997 годзе гэты паказчык набліжаўся да трох чвэрцяў. Пры гэтым і з эканомікай у нас тады было крыху лепей... Нягледзячы на такія вялікія паказчыкі таваразабарота паміж Расіяй і Беларуссю ў параўнанні з таваразабаротам Беларусі з іншымі дзяржавамі, трэба адзначыць, што большая палова ад 53,8 працэнта прыпадае на пастаўку ў нашу рэспубліку газа, нафты і г. д. і адпаведна беларускі разлік, у асноўным, сельскагаспадарчай прадукцыяй і грузавым аўтатранспартам.

У цяперашні час, такім чынам, знешні гандаль у Рэспубліцы Беларусь перажывае вельмі цяжкі перыяд у сваім «развіцці». Зніжаецца таваразабарот з года ў год з Расейскай Федэрацыяй, імпарт значна перавышае экспарт, удзельная вага бартэрных аперацыяў набліжаецца да адзнакі ажно ў 40 працэнтаў. Калі да вышэйзгаданага яшчэ дадаць самы нізкі паказчык інвестыцыяў у параўнанні з усімі папярэднімі гадамі суверэннай Беларусі, амаль 200-працэнтную гадавую інфляцыю, «супер» макраэканамічныя паказчыкі за першае паўгоддзе і сельскагаспадарчы комплекс, які знаходзіцца ў заняпадзе, то можна зрабіць выснову: беларуская эканоміка ўжо на мяжы «зрыву».

**Кацярына Зволін**

# Курсы валют

**На 1 верасня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют:**

даляр ЗША — 280.000 беларускіх рублёў; еўра — 294.938; нямецкая марка — 150.799,40; расейскі рубель — 11.290. У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс даляра не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 1 верасня даляр куплялі па 485.000—490.000 і прадавалі па 495.000—500.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём курс не змяніўся.

**На мінулым тыдні (23—29 жніўня) курс даляра ЗША да беларускага рубля вырас на большасці сегментаў валютнага рынку краіны. Лідарам росту нечакана стала каціроўка даляра ў абменных пунктах камерцыйных банкаў — 6,3 працэнта (курс куплі павялічыўся з 305.000—315.000 да 315.000—334.000 рублёў, продажу — з 315.000 да 340.000 рублёў).**

**Як вядома, у апошнія месяцы Нацыянальны банк вельмі павольна павышаў курс даляра ў «абменніках». На «чорным» рынку наяўнай валюты даляр падаражаў у сярэднім на 2,3 працэнта (з 470.000—475.000 да 480.000—490.000 рублёў пры куплі, з 485.000—490.000 да 495.000—500.000 рублёў пры продажу). На Беларускай валютна-фондавай біржы даляр падаражаў на 1,1 працэнта (з 276.000 да 279.000 рублёў), расейскі рубель —на 0,4 працэнта (з 11.220 да 11.270 рублёў). Нямецкая марка і еўра патаннелі на 1,1 працэнта (адпаведна са 150.650 да 149.050 і з 294.740 да 291.360 рублёў). Курс даляра да безнаяўнага рубля на пазабіржавым рынку па выніках тыдня не змяніўся (555.000—575.000 рублёў). З пачатку месяца рынкавы безнаяўны курс вырас на 13 працэнтаў, рынкавы наяўны — на 9,8 працэнта, біржавы — на 4,1 працэнта, банкаўскі наяўны — на 8 працэнтаў.**

**Афіцыйны курс даляра да расійскага рубля, які ўстанаўліваецца Цэнтральным банкам РФ, знізіўся за мінулы тыдзень на 0,3 працэнта (з 24,82 да 24,75 рубля), з пачатку месяца — вырас на 2,3 працэнта.**

**Дзмітрый Уласаў**

# Апетыту інфляцыі не дагнаць

**Існуючыя ў Беларусі закупачныя цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю не забяспечваюць выдаткі на яе вытворчасць, не кажучы ўжо аб дастатковым прыбытку для пашыранага ўзнаўлення. Гэта вынік дыспарытэту цэн у народнай гаспадарцы краіны, які бярэ пачатак яшчэ з савецкіх часоў.**

З мэтай выправіць гэтыя перакос, урад Беларусі час ад часу павышае закупачныя цэны. У прыватнасці, за 7 месяцаў 1999 года мінімальныя закупачныя цэны на малако ўзраслі ў 2,3 раза, на буйную рагатую жывёлу — у 2,5 раза, на свіней — у 3,4 раза. Межавыя адпускныя цэны на хлеб масавых гатункаў былі павышаны ў 1,9 раза. Аднак, нягледзячы на гэта, сітуацыя ў сельскай гаспадарцы застаецца напружанай. Ва ўмовах высокай інфляцыі спробы выправіць цэнавыя перакосы прыводзяць да таго, што яны пастаянна ўзнаўляюцца, але ўжо на новым коле інфляцыі.

Так, увесь гэты час больш высокімі тэмпамі ўзраслі цэны на камбікармы, паліўна-энергетычныя рэсурсы, прадукцыю прамысловасці і будаўніцтва. Увогуле цэны ў прамысловасці за студзень—ліпень узраслі на 120,7 працэнта, у той час як спажывецкія — на 97,2 працэнта.

**Сяргей Снегін**

# Сучаснай мабільнай сувязі ў Беларусі так і не будзе

**Па ўзроўню развіцця сістэмаў мабільнай сувязі Беларусь займае апошняе месца ў Старым свеце, хаця, магчыма, і ў Еўразіі ў цэлым.**

Да сярэдзіны мінулага года на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь на рынку мабільнай сувязі (сотавай сувязі) працаваў адзіны (манапаліст) «БЕЛСЕЛ» з сістэмай NMT-450 і тэлефонамі MAXON, NOKIA, BENEFON. На сённяшні дзень у беларускіх спажыўцоў мабільнай (сотавай) сувязі ўжо ёсць выбар паміж «БЕЛСЕЛ» і «Мабільная лічбавая сувязь». Апошняе з указаных сумесных прадпрыемстваў прапануе мабільную сувязь стандарта GSM Velkom-900 і тэлефонамі Alkatel, Motorola і NOKIA. (Магчыма, з верасня будуць і тэлефоны Ericsson).

На наш погляд, чытачам ПАГОНІ будзе цікава даведацца пра асаблівасці кожнай з канкуруючых сістэмаў сувязі на Беларусі. Параўнаем іх з гледзішча гарадзенскага журналіста.

**1. Кошт тэлефона разам з падключэннем**

У залежнасці ад тэлефона, кошт яго разам з падключэннем у сістэме NMT-450 вагаецца ад 200 у. а. да 450 у. а, а ў сістэме GSM Velcom-900 - ад 600 у.а. да 1200 у. а. Варта заўважыць, што тэлефоны «Мабільнай лічбавай сувязі» больш сучасныя і кампактныя.

**2. Тэрыторыя, на якую распаўсюджваецца сувязь**

Сістэма GSM Velcom-900 дзейнічае толькі ў Менску на тэрыторыі аэрапарта Менск-2 і прылягаючай да яго трасы. Гэта вялікі мінус для GSM Velcom-900. Для далейшага развіцця вышэйзгаданай сістэмы мабільнай сувязі на тэрыторыі Беларусі мяркуецца падключэнне Брэста ў снежні 1999 года; Гомеля, Гродна, Віцебска, Магілёва - у 2000 годзе; падключэнне раённых цэнтраў рэспублікі - пакуль што ў далёкай перспектыве. На цяперашні момант роўлінг даступны з Масквой. У 2000 годзе лік краінаў і гарадоў, з якімі будзе прапаноўвацца роўлінг, будзе пашыраны за кошт Санкт-Пецярбурга, Польшчы, Літвы, Латвіі ды Эстоніі, а ў будучыні і краінаў Заходняй Еўропы.

Сістэма мабільнай сувязі NMT-450 ад «БЕЛСЕЛ» дзейнічае ва ўсіх абласных цэнтрах, у большасці раённых цэнтрах і на ўсіх асноўных беларускіх аўтамагістралях. У бліжэйшыя паўгады будуць падключаны Салігорск, Лепель, Пінск, Слуцк і Бегомль. Мяркуецца роўлінг з Літвой, да канца года будзе роўлінг з Расейскай Федэрацыяй, Польшчай і Украінай. Такім чынам, сістэма мабільнай сувязі NMT-450 ахоплівае большую частку Беларусі, чаго нельга сказаць пра GSM Velcom-900. А пра распаўсюджванне магчымасцяў сувязі на далёкае замежжа ў двух канкуруючых сумесных прадпрыемстваў пакуль толькі ў перспектывах і планах на трэцяе тысячагоддзе ад Нараджэння Хрыста.

**3. Месячная аплата**

Абаненцкая плата ў «БЕЛСЕЛ» складае 4 мільёны 630 тысяч беларускіх рублёў, а ў «Мабільнай лічбавай сувязі» - 7 мільёнаў рублёў. Аднак з-за таго, што ў сістэме мабільнай сувязі GSM Velcom-900 адсутнічае аплата за ўваходзячыя званкі, аплата ў месяц у гэтай сістэме меншая. Як нам стала вядома з канфідыцыйных крыніц, у сярэднім за месяц абаненты GSM Velcom-900 выкладваюць прыблізна 16 мільёнаў рублёў, а абаненты NMT-450 - у сярэднім 21 мільён рублёў.

**4. Вынік**

Мабільная сувязь GSM Velcom-900 з тэхнічнага пункту гледжання канешне ж больш дасканалая, чым NMT-450. Менавіта лічбавая сувязь прадастаўляе больш магчымасцяў для абанента. Тэлефонныя апараты ад сумеснага прадпрыемства «Мабільная лічбавая сувязь» меншыя па памеру, ёсць магчымасць замяніць трубкі, пакідаючы сваю спецыяльную карту «SIM». Аднак нягледзячы на ўсе свае перавагі, мабільная сістэма сувязі GSM Velcom-900 у Беларусі па-ранейшаму саступае NMT-450. І перш за ўсё саступае па распаўсюджанасці сваёй сувязі. На наш погляд, да пачатку 2002 года сістэма NMT-450 ад «БЕЛСЕЛ» будзе ўсё-такі лідарам на рынку мабільнай сувязі.

Такім чынам, з наступленнем 2002 года, як плануе сумеснае прадпрыемства «Мабільная лічбавая сувязь», тры чвэрці Беларусі будзе ахопліваць сістэма GSM Velcom-900. Плюс яшчэ і магчымасць сувязі ў дзяржавах Заходняй Еўропы, у Расейскай Федэрацыі ды ў іншых краінах. Тады, канешне, у «БЕЛСЕЛ» з сістэмай NMT-450 будуць вялікія эканамічныя праблемы, магчыма нават некаторая рэарганізацыя сумеснага прадпрыемства.

Аднак самым сумным з'яўляецца тое, што нават у 2002 годзе для большасці беларусаў «мабільнік» GSM Velcom-900 будзе недаступны з-за сваёй дарагавізны. І яшчэ самае-самае сумнае: да 2002 года мабільная сістэма сувязі GSM Velcom-900 хутчэй за ўсё ў свеце састарэе (ужо сёння ў Заходняй Еўропе GSM Velcom-900 лічыцца сістэмай мінулага, не кажучы ўжо пра NMT-450). Атрымліваецца, што ў Рэспубліцы Беларусь сучаснай мабільнай сувязі так ніколі і не будзе. Мы ўвесь час будзем спрабаваць даганяць апошні вагон адыходзячага цягніка пад назвай «Мабільная сувязь».

**Сяргей Міронаў**





## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# Усё для Фронта - усё для перамогі!

**Пасьля першай часткі зьезда БНФ зьявіліся заявы, артыкулы, факсы, у якіх у больш ці меньш адкрытай форме асуджаецца пастава тых 152 дэлегатаў, якія пасьмелі ўсамніцца ў сэнсоўнасьці далейшага знаходжаньня З.Пазьняка на пасадзе старшыні арганізацыі. Гэтыя дэлегаты абвінавачваюцца ў імкненьні раскалоць і, нават, зьнішчыць Фронт (У.Старчанка), а прычынамі такіх паводзінаў называюцца: жаданьне займацца не палітыкай, а культурніцкай дзейнасьцю (З.Пазьняк), ці, нават, адпрацоўка заходніх грошай (заява пінскай Рады БНФ). Пры гэтым, ва ўсіх выпадках ніякіх сэнсоўных аргументаў не прыводзіцца. Толькі эмоцыі, абвінавачваньні, абразы...**

Як ня дзіўна, але якраз тут дарэчы будзе прыгадаць словы самага З.Пазьняка - «Блытанікі, зноў усё пераблыталі».

Прапаную ўсім, хто ў такой абстаноўцы захаваў жаданьне разабрацца, зрабіць гэта. Але пачынаць прыдзецца ад асноў.

### Наша галоўная мэта

Ва ўсёй сукупнасьці каштоўнасьцей, за якія гатовыя змагацца сябры і прыхільнікі Фронту, ёсьць больш і меньш істотныя. Я асабіста ўпэўнены, што падаўляючая большасьць сапраўдных беларускіх патрыётаў сваёй найгалоўнейшай каштоўнасьцю (сярод, напрыклад, такога набору: «Фронт», «Пазьняк», «Беларусь») лічыць Беларусь. Дакладней, будучую сувярэнную, цывілізаваную, беларускую дзяржаву, у якую павінна перайтварыцца сёняшняя Беларусь. Яна на першым месцы, таму што яна - НАША МАРА і НАША МЭТА. Другое месца - за БНФ, бо Фронт - гэта ПРЫЛАДА для дасягненьня нашай мары.

Упэўнены, ня толькі я, але і 99% усіх фронтаўцаў прыйшлі ў арганізацыю менавіта са шчырым жаданьнем змагацца за будучую Беларусь. Я ў гэтым настолькі ўпэўнены, што, не баючысь нарабіць сабе вялікай колькасьці ворагаў, усім сябрам і прыхільнікам БНФ з іншым рэйтынгам каштоўнасьцей, раю далей гэты артыкул не чытаць...

### Ацэнім нашу дзейнасьць

Паколькі нашай мэтай і марай зьяўляецца ператварэньне сёняшняй рэальнай Беларусі ў будучую беларускую дзяржаву, ацэньваць дзейнасьць Фронта, як «адзінай надзеі беларускага народа», трэба з пазыцый таго, наколькі эфектыўна гэтае перайтварэньне адбываецца. Усе іншыя крытэрыі, тлумачэньні, загаворы, апраўданьні - ад Лукавага.

Дык, што ж мы маем?

- Аказваецца, з 1992 года - адныя паразы!

Давайце ўзгадаем:

-1992 г. (Збор подпісаў за рэферэндум па датэрміноваму пераабраньню Вярхоўнага Савета. Праца тысяч прыхільнікаў Фронту аказалася марнай);

-1994 г. (Выбары першага прэзыдэнта. За вылучэнцам БНФ толькі 3-е месца);

-1995 г. (Выбары ў Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, дзе мы не атрымалі ніводнага месца!);

-1995 г. (Поўнасьцю прайграны намі рэферэндум па сымволіцы і мове);

-1996 г. (Прайграны намі рэферэндум па лукашэнкаўскай канстытуцыі);

-1998 г. (Бессэнсоўна страчана больш года часу на акцыі «Адстаўка» і «Грамадзянства БНР»);

-1999 г. (Поўны развал выбараў «апазыцыйнага прэзыдэнта», якім вось-вось мог стаць З.Пазьняк).

Колькі людзкіх сіл, нерваў, працы, часу... І ўсё безвынікова, усё ўпустую.

### А дзе аналіз прычынаў нашых паразаў?

Няма аналізу! Замест яго мы весь час чуем:

-ці аптымістычныя прагнозы на будучыню, якія затым не збываюцца;

-ці бессэнсоўныя з пазіцый логікі і практыкі апраўданьні;

-ці пустапарожнія ініцыятывы, устаноўкі, акцыі тыпу «Уступленьне Беларусі ў NATO»; «Адмены пасады прэзыдэнта»; «Вызвольны рух»; «Адстаўка»; «Грамадзянства БНР»; «Грамадзянскі парламант».

Усё словы, словы, словы...

А дзе справы? Дзе рэальнае змаганьне за Беларусь?

Калі вынікаў няма, дзе аналіз прычынаў нашых паразаў і ў чым прычыны адсутнасьці такога аналізу?

Ад гэтых фактаў і пытаньняў немагчыма адмахнуцца. Далейшая гаворка пра нашу будучую дзейнасьць без дакладнага, рацыянага тлумачэньня былога бессэнсоўная і, нават, сьмешная!

### Пераможная сыстэма і яе сапраўдныя кіраўнікі

Мітусьня і блытаніна ў нашых уяўленьнях пра тое, што і як павінна рабіцца на Беларусі, у Фронце, ва ўсёй апазыцыі, зьяўляецца сьледзтвам таго, што многія з нас не ўяўляюць, як павінна быць арганізавана нацыянальная сіла (партыя, рух), апазыцыйная сучаснаму антыбеларускаму рэжыму, якая пераможа ў змаганьні за Беларусь і будзе далей забясьпечваць яе поўнавартаснае разьвіцьцё.

Самае галоўнае пытаньне аднойна структуры такой арганізацыі: ХТО зьяўляецца сапраўдным, паўнамоцным кіраўніком нацыянальнай апазыцыі, каб АДКАЗВАЦЬ за лёс Беларусі?

Дык вось, вымушаны максімальна выразна сьцьвердзіць: галоўнай кіруючай сілаю на Беларусі ўжо сёньня зьяўляецца не лідар, не ідал, а беларуская нацыянальная ЭЛІТА, станаўленьне якой у дастатковых памерах адбылося на нашых вачах. Менавіта яна нясе на сабе АДКАЗНАСЬЦЬ за тое, што будзе з Беларусьсю. У гэтым яе гістарычная місія.

Сучасная нацыянальная эліта - гэта адроджаная беларускаліцьвінская шляхта сёньня. Жыцьцёвыя прынцыпы, якімі карыстаюцца яе прадстаўнікі, дастаткова відавочныя. Гэта:

-Адданасьць беларускай ідэі, Адказнасьць перад ёю і Ахвярнасьць дзеля яе;

-выкарыстаньне Розуму і Волі дзеля дасягненьня мэты;

-канцэнтраваньне ўвагі ня проста на дзейнасьці, а на Выніковасьці дзейнасьці, Аб'ектыўная яе ацэнка;

-Роўнасьць сярод сваіх і непрызнаньне нікога над сабой. Зьверху толькі сьвяты сьцяг беларускай нацыянальнай ідэі.

Несумненна, што ў беларускай эліце першым сярод роўных з'яўляецца Васіль Быкаў. Але ж у яе можа ўваходзіць і школьны настаўнік, які ў нацыянальным духу выхоўвае дзяцей, і прадпрымальнік, які ахвяруе свае грошы на беларускую справу, і, нават, сёньняшні намэнклатурны кіраўнік, які ціха, але сьвядома, сабатуе выкананьне замяталінскіх загадаў, накіраваных на тармажэньне беларускага нацыянальнага адраджэньня. У эліту ўваходзяць невядомыя «шляхцічы», якія арганізавалі выпуск беларускамоўнай фолк-, бард- і рок-касэтаў, беларускіх казак і г.д. Увесь гурт «Камелот» - таксама эліта. Кіраўнікі ды ўдзельніцы ансамбля «Грамніцы» - таксама. А колькі яшчэ? Ці ж можна іх усіх пералічыць? Толькі з трыбуны першай часткі VI з'езда БНФ выступіла ня менш як паўтара дзясеткі прадстаўнікоў беларускай эліты. Для прыкладу можна назваць Баршчэўскага, Хадыку, Вячорку, Кавальца, Бяляцкага, Івашкевіча, Сіўчыка, Фёдарава, Мальчыка, Баўсюка, Алейнікава, Севярынца, Шыдлоўскага, Пушкіна... Сярод гасьцей - Знаўца, Багданкевіча... Да несумненнай эліты належыць група жанчынаў, якая ў перапынках з'езда сьпявала народныя песьні.

Сёньня на Беларусі такіх людзей тысячы і тысячы...

### Лідар

Але, з-за сваёй адноснай неакрэсьленасьці і дынамічнасьці, нацыянальная эліта для падаўляючай большасьці звычайных грамадзянаў зьяўляецца ня столькі рэальнасьцю, колькі абстрактным паняцьцем. Таму для «савецкіх беларусаў», каб весьці іх у будучыню ў адпаведнасьці зь іх жа АБ'ЕКТЫЎНЫМІ ІНТАРЭСАМІ, патрэбныя канкрэтныя асобы, лідары, людзі-сымвалы, на якіх яны маглі б арыентавацца. Таму ў абавязкі беларускай нацыянальнай эліты, акрамя іншага, уваходзіць «прызначэньне» асобаў з вышэйакрэсьленымі функцыямі лідара-сымвала.

Падкрэсьлю, гэтая асоба ў масавым успрыманьні можа быць кім заўгодна - «дамінантам», «кіраўніком», «лідарам», «правадыром», «бацькам нацыі», «ідалам», «богам» і г.д. Галоўнае, каб чалавек з функцыямі лідара-сімвала эфектыўна рабіў дзьве рэчы: 1) РЭАЛЬНА пераўтвараў сёньняшнюю Беларусь у дзяржаву, пра якую мы марым; 2) ні пры якіх абставінах НЕ пачаў усур'ёз лічыць сябе адзіна магчымым правадыром, бацькам нацыі, ідалам, богам; НЕ пачаў лічыць сваю дзейнасьць беспамылковай; НЕ ігнараваў нацыянальную эліту, лічачы сябе вышэй і разумней за яе.

Разумней, дасьведчаньней, эфектыўней, сьвяцей нацыянальнай эліты ня можа быць ніводны асобны чалавек!

### Недахопы?

Сапраўдны лідар, каб быць эфектыўным, павінен:

- стымуляваць вылучэньне ідэй, быць здольным успрымаць і ацэньваць іх;

-знаходзіць і арганізоўваць прыцягненьне сродкаў для рэалізацыі абраных ідэяў;

-умець аб'ядноўваць людзей і арганізоўваць іх дзейнасьць;

-ня толькі ўспрымаць крытыку, але шукаць яе, нават, прасіць паказаць на недахопы ўласнай дзейнасьці;

-лідар павінен, нягледзячы на любую харызму, успрымаць сябе ўсяго толькі часткай, «СЛУГОЙ» у агульнай справе. Ён павінен ня столькі атрымліваць асалоду ад таго, што яму падпарадкоўваюцца, колькі мець пастаяннае, непярымае пачуцьцё цяжара АДКАЗНАСЬЦІ ЗА ВЫКАНАНЬНЕ ўскладзеных на яго абавязкаў!

Якія з гэтых рыс на сёньня мае З.Пазьняк?

Высьвятляецца, што наш лідар неадэкватны ніводнаму зь пералічаных патрабаваньняў!

-ня ўмее выслухоўваць людзей, ня здольны адэкватна ацэньваць іх ідэі;

-ня ўмее прыцягваць сродкі;

-ня здольны аб'ядноўваць і арганізоўваць людзей (у выніку апошніх «выбараў прэзыдэнта» замест змаганьня з рэжымам пачалося змаганьне ўнутры апазіцыі і, нават, унутры Фронта);

-ніколі не бярэ адказнасьць за ўласныя памылкі;

-з-за перабольшанай амбіцыйнасьці ставіць сябе над арганізацыяй і выкарыстоўвае сваю харызму для падпарадкаваньня сабе.

### Недахопы Фронта - працяг недахопаў лідара

Сёньня Беларускі Народны Фронт так арганізаваны, што любая ініцыятыва, якой бы выратавальнай для Беларусі не была, не выконваецца, калі яе не падтрымае З.Пазьняк. Фактычна Фронт сёньня - гэта таталітарная арганізацыя, кіруемая аднаасобна.

Такая архаічная форма засталася ў спадчыну з канца 80-х пачатку 90-х гадоў. Ёсьць у гэтым і станоўчыя моманты:

-хуткасьць у прыняцьці ды рэалізацыі рашэньняў;

-моцная вера ў лідара, практычна абсалютны давер да яго;

-выразная разбуральная моц.

Аднак у таталітарнай арганізацыйнай форме ёсьць ня менш значныя недахопы. Яны заключаюцца ў тым, што недахопы лідара маюць працяг у недахопах дзейнасьці арганізацыі. А калі да гэтага дадаць, што рысы характару З.Пазьняка даўно пралічаны спэцслужбамі, вось мы і маем адказ на пытаньне: чаму апошнія сем год мы церпім паразы.

Паколькі З.Пазьняк усяляк падтрымлівае таталітарную арганізацыйную структуру БНФ, аб'ектыўна менавіта на ім ляжыць персанальная АДКАЗНАСЬЦЬ за тое, што было зроблена ці ня зроблена Фронтам.

### Чаму З.Пазьняк да гэтай пары старшыня БНФ?

Калі паўставаў Фронт, яго асноўнай задачай было разбурэньне таталітарна-камуністычнай сістэмы. Тады (з 1988 па 1991 гг.) З.Пазьняк умацаваўся як несумненны лідар арганізацыі, як відавочны і пасьпяховы тэрмінатар (разбуральнік) камуністычнай сістэмы. Тады ён выдатна ўпісваўся ў масавыя чаканьні грамадзянаў Беларусі. Таму Зянон Пазьняк - выбітная асоба ў навейшай гісторыі Беларусі! Ня меньшая яго заслуга і ў тым, што ў свой час менавіта ён выканаў ролю хроснага бацькі для беларускай нацыянальнай эліты, якая толькі нараджалася.

Але, відаць, тады ж ён «забыўся» пра сваё сапраўднае прызначэньне і пачаў успрымаць сябе беспамылковым правадыром-ідалам. Тады ж многія фронтаўцы, нягледзячы на вядомае біблейскае папярэджаньне, усё ж такі «стварылі сабе куміра»...

Відавочны грэх і З.Пазьняка, і многіх сябраў БНФ.

З.Пазьняка доўга падтрымлівалі тыя фронтаўцы, якія працягвалі верыць, што ён вось-вось зробіць абяцаны Цуд здзясьнейненьня нашай мары, і Беларусь хутка ды без асаблівых высілкаў перайтворыцца ў незалежную, цывілізаваную, заможную, беларускую дзяржаву. Вясной гэтага году, пасьля ўздыму такіх спадзяваньняў-чаканьняў, яны атрымалі магутны ўдар, які шмат каго ацьвярэзіў. Але доля «вернікаў» З.Пазьняка яшчэ значная. Акрамя іх, за Пазьняка - тыя, хто не хацеў бы быць ацэненым у залежнасьці ад адказаў на пытаньні: што зроблена? І, асабліва, ШТО ДАСЯГНУТА? Многія проста баяцца магчымасьці пераходу на новыя крытэрыі, дзе доказы вернасьці і адданасьці правадыру больш нічога не будуць вартыя!

Шмат хто баіцца, што больш ня будуць праходзіць такія «справаздачы» аб сваёй дзейнасьці, якія на першай частцы зьезда зрабілі спадары Беленькі і Папкоў, што трэба будзе:

-вучыцца;

-займацца штодзённай стваральнай працай;

-што дзейнасьць кожнага сябра БНФ, а тым больш актывіста, будзе ацэньвацца не па словах, і, нават, не па ступені мітусьлівасьці дзейнасьці, а па выніках.

### Як лідар БНФ выкарыстоўвае сваё становішча сёньня?

Калі ж сытуацыя памянялася (пасьля страчаных магчымасьцяў пачатку 90-х гадоў) і перамогу магла забясьпечыць толькі складаная, дыферэнцаваная арганізацыя, руцінная штодзённая стваральная праца, калі спатрэбілася зьмена тактыкі (адыход ад масавых вулічных акцый і перанос акцэнта на змаганьне за пачуцьці жыхароў Беларусі), калі спатрэбілася вытанчаная дзейнасьць на міжнароднай арэне і г.д. - на жаль наш лідар аказаўся неадэкватны гэтым патрабаваньням. Аднак прызнаваць гэтага катэгарычна не пажадаў і не жадае да гэтае пары.

А як жа ён мог лічыць сябе недзеяздольным, калі раней у яго ўсё атрымлівалася, калі ён, як шэпчуць яму «добразычліўцы», - «несумненны лідар», калі яму, як гаворыць ён сам, - «няма ніякай альтэрнатывы»?

Здавалася б, калі змагаешся за Беларусь (а не за сваю асабістую пазыцыю), самы час прыслухацца да голасу нацыянальнай эліты. Дык не. Да тых «ініцыятываў», якія пералічаны вышэй, З.Пазьняк дадае пасьлязьездаўскія прапановы аб падзеле БНФ на «грамадзка-культурніцкую» і «палітычную» часткі (так ён спрабуе падмяніць галоўнае пытаньне, пастаўленае зьездам - аб эфектыўным кіраўніцтве іншай, штучнай формай). Ініцыятар акцыі «Адстаўка» цяпер дае свае парады па акцыі «Перамовы». Былы змагар супраць сыстэмы камуністычнага і лукашысцкага таталітарызму сам пачынае настойваць на перайтварэньні БНФ у яшчэ больш жорстка таталітарную сістэму, дзе будзе свая выканаўчая «вертыкаль», свая «палата» ў выглядзе прызначанага ім Сойма, і, натуральна, на чале з сабой.

Такія «ініцыятывы» ня толькі не ўлічваюць новых рэаліяў, вядуць да безвыніковай траты сіл і веры ў нашу перамогу збоку нашых сябраў, але, што ня менш істотна, збоку нашых прыхільнікаў!

Але ж гэта не змаганьне. Гэта надзвычай небясьпечная для Беларусі ІМІТАЦЫЯ дзейнасьці змагара-імітатара, у якога перайтварыўся колішні Зянон Пазьняк!

Калі ён і далей будзе сябе так паводзіць, яго будучыню прадказаць ня цяжка. Яго чакае надзвычай незайздросны лёс.

Вось якую горкую праўду мы вымушаны канстатаваць.

### Дзе выйсьце?

Фронту, у тым выглядзе, у якім ён знаходзіцца зараз, сапраўды, проста бессэнсоўна браць уладу. Нават калі здарыцца цуд, і ўлада сама пяройдзе да Фронту, ён проста не не ўтрымае. Але самае галоўнае, што БНФ у сёньняшнім выглядзе ніхто ўладу і ня дасьць, бо большасьць людзей няўпэўнена, што, калі ўлада будзе ў Фронта, жыцьцё палепшыцца.

У той жа час, нават мой уласны досьвед сьведчыць: на Беларусі ёсьць усё, каб яна стала паўнавартаснай цывілізаванай краінай. Ёсьць самае галоўнае - людзі. Доказы таму - 30 аўтараў падручніка па прапагандзе, 70 аўтараў матэрыялаў канферэнцыі, якая сфармулявала беларускую нацыянальную ідэю...

Цуда ня трэба чакаць, яго мы здольныя зрабіць самі!

Будзем памятаць, што наша мэта - будучая Беларусь, што адказная за дасягненьне мэты - нацыянальная эліта, што сродак для дасягненьня мэты - Фронт ды іншыя нацыянальна-апазіцыйныя палітычныя сілы, што аб'ект нашага ўздзеяньня - насельніцтва Беларусі, а дакладней яго масавы менталітэт. Таму перш, што мы павінны зрабіць - гэта паўплываць на грамадзянаў Беларусі так, каб у іх масавай сьвядомасьці:

-вера ў «цудадзейныя» магчымасьці Лукашэнкі зьмянілася недаверам да яго;

-узьнікла вера ў беларускую ідэю, як адзіна магчымую і жаданую грамадзкую пэрсьпектыву;

-страх перад рэжымам перайтвараўся ў сьмех над ім;

-зьявілася выразная, канкурэнтаздольная альтэрнатыва Лукашэнке.

### Але наперадзе зьезд

Я не зьбіраюся нікому нічога навязваць, але лічу неабходным, каб як мага большая частка дэлегатаў зьезда ў крытычныя моманты ўлічвала наступныя прынцыпы:

1) Відавочнае жаданьне антыбеларускіх сілаў: каб у Фронце заставалася ўсё так, як ёсьць. Тады і ў 2000-2001-м гадах на Беларусі будзе ўсё так, як было з 1992 па 1999 гады! Гэта ўсім зразумела ў такой ступені, у якой ня бачна тых, хто гатоў узяць на сябе адказнасьць за безвыніковасьць 1992-1999 гадоў і, што на шмат істотней, 2000-2001 гадоў!

2) Трэба перастаць лічыць галоўным пытаньнем зьезда праблему адзінства. Яно - несумненная каштоўнасьць, але галоўнае пытаньне зьезду - ЭФЕКТЫЎНАЕ КІРАЎНІЦТВА! Нагадаю. Мы ўжо пасьпяхова вырашалі пытаньне адзінства коштам эфектыўнасьці нашай дзейнасьці ў 1995 і 1997-м гадах. Ну, і дзе ж вынікі?

3) Трэба канчаткова вырашыць пытаньне суадносінаў прафесіяналізму (як эфектыўнага дасягненьня мэты) і маральнасьці. Давайце дамовімся. Эфектыўнае дасягеньне НАШАЙ мэты-мары заўсёды маральна, бо лепш, сьвятлей, сьвяцей Беларускае нацыянальнае ідэі нічога іншага не існуе! Таму, давайце надалей ведаць, што неэфектыўнаму змаганьню за нашу будучую Беларусь ніякіх «маральных» апраўданьняў папросту ня можа быць! Дарэчы, дадатковыя правы менавіта на такое разуменьне дадзенай праблемы дае нам правячы рэжым.

4) Абраўшы новае кіраўніцтва, мы павінны паставіць перад ім дакладныя ўмовы, што з моманту абраньня, яго дзейнасьць будзе ацэньвацца па новых прынцыпах - г.зн. толькі па ВЫНІКОВАСЬЦІ ! Няхай абіраюць лепшыя ідэі ды арганізоўваюць іх рэалізацыю, няхай робяць што заўгодна, але дадуць вынік! Толькі посьпех, толькі перамога і АДКАЗНАСЬЦЬ за іх!

Але ўвядзеньне гэтых пераможных прынцыпаў у практыку дзейнасьці Фронта пачнецца тады, калі большасьць дэлегатаў зьезда правільна вырашаць дылему: яны зьбіраюцца змагацца за Беларусь ці за З.Пазьняка? Асабіста я свой выбар зрабіў.

**Алесь Астроўскі,**
**сябра Сойму БНФ, прафесар**
**31 жніўня 1999 г.**

